

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

# Газета Слонімская

№ 13 (94). 25 — 31 сакавіка 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 20 тыс. руб.


## ВЯСНА НА ТВАРАХ СЛОНІМЦАЎ



Фота Мікалая СУПРУНА

*Мікола КАНАНОВІЧ*

### Да ўгодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі

Стагоддзе ў галопе —
Васемнаццаты год.
Пажарам Еўропы
Абуджан народ.

Імперыя пала!
Па Брэст і Смаленск
Радзіма збірае
Сыноў на Кангрэс.

Між ворагаў лютых
І ўласных хімер
Паўстала дзяржаўнасць:
Жыве БНР!

## І АД П'ЯНІЦ ЁСЦЬ КАРЫСЦЬ

**На мінулым тыдні адбылася чарговая сесія Слонімскага гарсавета. Сярод іншых пытанняў дэпутаты разглядалі прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця горада на 1999 год.**

У прыватнасці, у бягучым годзе запланавана пабудаваць магазіны па вуліцы Карбышава і ў раёне райаграпрамтэхнікі. Зрабіць добраўпарадкаванне вуліц Баранавіцкай і Войкава, на што выдзелена 5 млрд.руб. Таксама будзе рыхтавацца праектна-каштарысная дакументацыя на рамонт гарадской лазні і раённай дзіцячай бібліятэкі.

Разам з тым дэпутаты зацвердзілі і бюджэтныя выдаткі на розныя віды дзейнасці, выграшэнне сацыяльна-эканамічных праграм. Напрыклад, на дзяржаўнае кіраванне і мясцовае самакіраванне выдзелена 19,7 млрд.руб., што на 8 млрд. больш, чым было ў мінулым годзе. Міліцыя атрымае 3,2 млрд.руб. (у 1998 г. – 1,16 млрд.руб.) медыцына – 357 млрд. руб. (1998 г. – 148 млрд.) і іншыя. На дапамогу сем'ям, якія маюць дзяцей выдзелена 2,1 млрд.руб. (1998 – 628,8 млн.руб.). На жыллёвае будаўніцтва ў бюджэце грошай няма. Тым не менш 90 млн.руб. дадуць БПСМ, паўмільярда рублёў выдзелена газеце "Слонімскі веснік".

Бюджэт, як вядома, фарміруецца з падаткаў грамадзян, гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў і фірм. Аднак дэпутаты запланавалі і іншыя крыніцы даходаў. Напрыклад, уже падлічана, колькі паступіць у казну грошай за паслугі ад тых асоб, якія трапяць у медвыцвярэзнік. Летась з аматараў выпіць было сабрана 324 млн.руб., а сёлета плануецца, што гэта публіка дасць бюджэту каля аднаго мільярда рублёў. А ў выглядзе штрафаў і розных санкцый мяркуецца, што на банкаўскі рахунак гарфінаддзела будзе пералічана 55,7 млрд. руб., што амаль у два разы больш, чым летась.

**Анатоль МІРСКІ**



**ЗДАРЭННІ**

### Зноў мініравалі вакзал, а таксама санаторый "Радон"

**На мінулым тыдні, 18 сакавіка, шосты раз запар мініравалі слонімскі вакзал.**

"Бомбу" не знайшлі, але на некалькі гадзін быў спынены рух цягнікоў праз Слонім, пакуль яе шукалі сапёры.

А на наступны дзень, у пятніцу, невядомы патэлефанаваў у Гродзенскі штаб грамадзянскай абароны і паведаміў, што выбуховае прыстасаванне закладзена ў адным з будынкаў санаторыя "Радон" Дзятлаўскага раёна. Па словах мінёра, "бомба" павінна была спрацаваць раніцай у суботу 20 сакавіка. На шчасце і там спецыялісты нічога небяспечнага не знайшлі.

**Наталля ФУРСАВА**

### Вымагальнікі грошай затрыманы

**Сланімчанка К., якая жыве на Шасэйнай вуліцы, паведаміла ў міліцыю, што днямі ў яе дом прыйшлі трое мужчын і забралі 1 млн. руб.**

Асобы, якія падазраюцца ў гэтым злачынстве, затрыманы. Двое з іх – раней судзімыя і нідзе не працуюць.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**НАВІНЫ**

### Немцы ачысцяць ваду

**Кіраўніцтва кардонна-папяровага завода заключыла дамову з заходнегерманскай фірмай на пастаўку і мантаж абсталявання для ачышчальных збудаванняў прадпрыемства. Кошт праекта складае 110 тысяч даляраў.**

Санітарна-эпідэміялагічная служба выявіла, што адходы прадпрыемства трапляюць у трэцюю зону водазабора Альбярціна, што ўяўляе небяспеку для здароўя жыхароў мікраёна. Мяркуецца, што замежнае абсталяванне прызначана для ліквідацыі асадкаў сцёкавых вод.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Піце на здароўе

**Вядома, што сёння ўлады для ветэранаў спецыяльна зрабілі на многія віды тавараў самыя нізкія цэны.**

У Мастах для састарэлых людзей зменшылі кошт не толькі на прадукты харчавання, але і на піва. Напрыклад, у краме "Ветэран" яго можна набыць на дваццаць тысяч танней, чым у іншых гандлёвых кропках горада.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Шприцы для наркоманов

**Пункт обмена разовых шприцев для наркоманов открылся в Гродно. Процедура обмена будет проводиться анонимно.**

По мнению специалистов, открытие пункта позволит в значительной степени предупреждать заражение молодежи ВИЧ-инфекцией. На сегодня среди 15 зарегистрированных в области ВИЧ-инфицированных семеро – наркоманы. Реальное количество инфицированных, по мнению медиков, значительно превышает этот показатель.

В ближайшее время запланировано также открытие аналогичных пунктов в Лиде, Волковыске и Слониме.

**БелаПАН**

### Пераходзім на летні час

**У нядзелю, 28 сакавіка, у дзве гадзіны ночы стрэлкі гадзіннікаў будуць пераведзены на адну гадзіну наперад.**

**НАДВОР'Е**

**25 марта** облачно с прояснениями, ночью временами осадки, днем без осадков, ветер западный 4-9 м/с, температура воздуха ночью -3, +2, днем 6-11 градусов тепла.

## ХТО БУДЗЕ ЛІЧЫЦЬ ГАЛАСЫ?

**Не выключана, што ў Слоніме выбары дэпутатаў у мясцовы Савет будуць неправамоцнымі, калі да іх падыходзіць з літары закона.**

Да 4 сакавіка засталося літаральна дзесяць дзён, а гарадская выбарчая камісія па выбарах дэпутатаў гарсавета цалкам не ўкамплектавана. Рэч у тым, што пяцёра раней зацверджаных членаў выбарчай камісіі, начале са старшынёй Войцехам Угрыновічам (намеснік старшыні гарвыканкама) нечакана 2 сакавіка зарэгістраваліся кандыдатамі ў дэпутаты. Гэта значыць, што іх паўнамоцтвы ў выбарчай камісіі аўтаматычна спынены. У выніку, з 14 членаў камісіі засталося 9. Афіцыйнага паведамлення аб вылучэнні і зацвярджэнні новых прадстаўнікоў у склад камісіі не было. Хаця згодна Закону "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь" рашэнне з указаннем складу выбарчай камісіі "у сямідзённы тэрмін публікуецца ў друку або іншым спосабам даводзіцца да ведама выбаршчыкаў" (артыкул 20). Такім чынам паведамленне аб новым складзе камісіі павінна было быць зроблена не пазней 9 сакавіка. Аднак пра новых членаў камісіі нідзе не было абвешчана. Гэта азначае, што на сёння гарадская выбарчая камісія па-ранейшаму складаецца з 9 чалавек і юрыдычна яна не правамоцная, бо па закону (артыкул 20) у яе склад павінна ўваходзіць 13-19 чалавек.

**Міхась ВАРАНЕЦ, дэпутат гарсавета 22 склікання**

**(Працяг тэмы на стр. 2)**

**ЗДАРЭННІ**

### Трагедыя на аўтастрадзе

**Вечарам, 21 сакавіка, каля Баранавіч на аўтастрадзе Брэст-Масква здарылася жудасная трагедыя, у выніку якой загінулі двое жыхароў Слоніма.**

У аўтамабіль "Фольксваген", у якім знаходзіліся 35-гадовы Алег Урбановіч і 27-гадовая Алена Лаўрышчук, на поўным ходу стукнуў шматтонны аўтафургон. Легкавушка імгненна ўспыхнула, бо ўдар прыйшоўся якраз у бензабак. Алена і Алег выбрацца з машыны не змаглі, бо заклініла дзверы. Яны згарэлі жывымі.

Сіротамі засталіся дзве дачкі школьнага ўзросту Алега Урбановіча і 5-гадовая малышка Алены Лаўрышчук.

### Абрабавалі дачу

**Вельмі абураны быў слонімец Б., які днямі наведаў сваю дачу ў Чамярах: з яго падвала бясследна зніклі кансервы і ўся бульба.**

Аб гэтым ён і паведаміў у міліцыю.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

### Фальшывыя паўмільёна

**У слонімскім аддзяленні "Аграпрамбанку" была выяўлена падробленая купюра вартасцю ў пяцьсот тысяч беларускіх рублёў.**

Гэты факт падцвердзіла ўпраўляючая банкам Марыя Ражнова. Па яе словах, купюра паступіла з гандлёвай выручкай з адной з крам горада.

**Сяргей ЁРШ**

### Не ўпісаўся...

**У Дзятлаве трактар збіў апору лініі электраперадач.**

Ад змены напружання ў сетцы ў двух прыватных дамах выйшлі са строю халадзільнікі і тэлевізары. Цяпер гаспадары шукаюць, з каго спагнаць грошы за пашкоджаную маёмасць.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Сам сябе пакараў

**У ізалятары часовага ўтрымання Мастоўскага РАУС павесіўся грамадзянін К., які быў затрыманы за рабаванне крамы ў вёсцы Міжава.**

Каб развітацца з жыццём, мужчына зрабіў вяроўку з уласных нагавіц.

**Антон МАКЕЙ**

**КУРСЫ ВАЛЮТ**

по состоянию на 23.03.99 г. (в тыс.руб.)

| Филиалы | USD Пок. | USD Прод. | DEM Пок. | DEM Прод. | RUR Пок. | RUR Прод. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| "Беларусбанк" | 285,0 | 290,0 | 158,0 | 161,0 | 11,9 | 12,1 |
| "Белагропромбанк" | 290,0 | – | 161,0 | – | 11,7 | 12,2 |
| "Приорбанк" | 320,0 | – | 175,0 | – | 12,5 | – |
| "Белпромстройбанк" | 290,0 | 292,0 | 162,0 | 164,0 | 12,1 | 12,3 |
| Курс "черн. рынка" | 325,0 | 345,0 | 170,0 | – | 12,5 | – |

ПАЛІТЫКА

# ПОКА В БЕЛАРУСИ СУЩЕСТВУЕТ «ВЕРТИКАЛЬ», СОВЕТЫ ИГРАЮТ ЗДЕСЬ ЧИСТО БУТАФОРСКУЮ РОЛЬ

**Проблема участия или неучастия в выборах в местные Советы депутатов, которые назначены на 4 апреля 1999 года, до сих пор актуальна. Свой взгляд на эту проблему излагает депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Вячеслав Герасименко.**

Действительно, как быть в данной ситуации? Принять предложенные властью правила игры или сохранить порох в пороховницах на будущее?

Всякие выборы — есть акция одновременно правовая и политическая. Первое связано с тем, что все процедуры, от назначения даты выборов и до объявления результатов голосования с вручением соответствующего удостоверения победителям, строго регламентируются законом. И когда имеют место отклонения от юридических норм, результаты выборов могут и должны быть аннулированы. Участие политических сил в избирательной кампании с целью прихода к власти для реализации своих политических партийных программ и задач определяет вторую характеристику выборов.

Согласно Конституции Республики Беларусь, срок полномочий местных Советов определен в пять лет, то есть полномочия ныне действующих Советов заканчиваются в 2000 году. Статьей 83 Основного закона государства определено также, что очередные выборы в местные Советы назначаются Верховным Советом Республики Беларусь. Поскольку нет оснований проводить досрочные выборы, Верховный Совет 13-го созыва вообще не рассматривал этот вопрос. Президент не уполномочен назначать выборы, и, следовательно, акция, связанная с днем 4 апреля 1999 года, не имеет под собой юридического основания.

Но иногда ради интересов дела можно сделать вид, что все законно, все правильно. Мол, конечный результат оправдывает действия. Тот ли это случай? Каков же результат деятельности местных Советов депутатов? Что даст, к примеру, победа оппозиционных сил в каком-нибудь Совете? Ответ на этот вопрос однозначный: ничего.

Пока в республике существует «вертикаль», то есть система назначения руководителей местных исполкомов президентом или по согласованию с ним, Советы играют чисто бутафорскую роль. Даже если, к примеру, две трети депутатов выскажутся за отстранение от должности председателя исполкома, он как работал, так и будет работать. Тот, кто назначил на должность, тот и имеет право освободить от нее, а вы, народные избранники, такого права не имеете. Только по личному желанию «вертикального» депутаты могут заслушать полный отчет о работе исполкома. А если местный «босс» этого не пожелает? Всякие попытки повлиять на непослушного бессмысленны. Органы, осуществляющие надзор, в лучшем случае дадут отписку обратившимся, а то и вовсе оставят запрос без ответа. Все фактически решает Его Величество Президент.

Правящему режиму в Беларуси как воздух нужно участие политических партий и общественных объединений в выборах. Различными путями они не позволят демократическим силам получить мандаты депутатов, зато будут трубить во все трубы, бить во все колокола, что народ не поддержал оппозицию. Горький пример участия БНФ в выборах в Верховный Совет в 1995 году многому научил?

**БелаПАН**

# ДЭПУТАЦКІ КОРПУС АБНАЎЛЯЕЦЦА

**З 21 дэпутата слонімскага гарадскога Савета 22-га склікання толькі дзевяць вылучаны кандыдатамі ў дэпутаты ў новы гарсавет. Карэспандэнт "ГС" звярнуўся да некаторых сённяшніх выбраннікаў з пытаннем: па якой прычыне яны не балатуюцца зноў у гарадскі Савет? Вось, што яны адказалі:**

**Мікалай Лішык**, старшыня гарсавета: — Праца, якой я займаўся перш чым стаць старшынёй гарадскога Савета, мне больш імпануе.

**Аляксандр Фідрык**, галоўны інжынер аграпрамтэхнікі: — Два разы людзі аказвалі мне давер быць іх дэпутатам. Трэці раз прапаноў не паступала. А калі б нават і вылучылі маю кандыдатуру — я адмовіўся б, бо лічу, што ёсць у Слоніме іншыя людзі, якія таксама павінны папрацаваць дэпутатамі.

**Яніна Каліноўская**, намеснік дырэктара СШ № 5: — Выбаршчыкі прапаноўвалі мне балатавацца кандыдатам у дэпутаты і на гэты раз, але я адмовілася. Па-першае, вельмі шмат часу аддаю рабоце ў школе. Па-другое, сям'я патрабуе большай увагі.

**Сямён Лапацкі**, супрацоўнік маркетынгавай службы ВА ЖКГ: — Паўгода назад вельмі цяжка захварэў, працяглы час лячыўся. У сувязі з гэтым прыйшлося змяніць месца працы. Балатавацца кандыдатам у дэпутаты адмовіўся.

**Канстанцін Рэмез**, дырэктар станцыі юных тэхнікаў: — За час працы дэпутатам пераканаўся, што палітыка — не маё прызванне. Таму ісці зноў у дэпутаты не хачу.

**Святлана Апрэлева**, настаўніца СШ № 9: — Прызнаюся шчыра — на гэты раз мне ніхто не прапаноўваў быць дэпутатам.

**Мікалай Якута**, старшы майстар Слонімскай КПФ: — Мне прапаноўвалі зноў быць кандыдатам, але я адмовіўся, бо працы хапае і на фабрыцы.

**Міхась Варанец**, пенсіянер Узброеных Сіл: — Не хачу падыгрываць уладам у іх гульні пад назвай "выбары".

**Гутарыў Валянцін ЧУРЫЛА**

## Апаратныя гульні

**Як стала вядома "ГС", намеснік старшыні Слонімскага гарвыканкама Войцех Угрыновіч пайшоў балатавацца ў дэпутаты ў сувязі з пэўным намерам.**

Дасведчаныя асобы сцвярджаюць, што калі Войцех Эдвардавіч стане дэпутатам, а гэта не выклікае ніякіх сумненняў, то яго адразу вылучаць на пост старшыні гарсавета. Такім чынам В. Угрыновіч стане начальнікам гарадскіх дэпутатаў.

**Наталля ФУРСАВА**

НАВІНЫ

## І ў дзяцей няма здароўя

**Высвятляецца, што на Зэльвеншчыне толькі 35 працэнтаў дзяцей дашкольнага ўзросту лічацца здаровымі.**

А ў дзіцячым садку вёскі Зальванка, напрыклад, няма ніводнага здаровага дзіцяці. У вёсцы Цяглевічы каля 40 працэнтаў дзяцей адносяцца да трэцяй групы здароўя, у якіх парушаны абмен рэчываў у арганізме, дрэнны зрок.

Сярод школьнікаў гэтага раёна ў параўнанні з папярэднімі гадамі ў два разы выраслі сардэчна-сасудзістыя, хірургічныя і эндакрынныя захворванні.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Мастоўскі "снегапад"

**У Мастах раённую аўтастанцыю, гарадскі рынак, кінатэатр перыядычна засыпае драўлянымі апілкамі.**

А робіць гэты "снегапад" акцыянернае таварыства "Мастоўдрэў", якое каторы год запар не можа ўстанавіць тэхналагічныя фільтры.

## Падатак на семкі

**На сесію Мастоўскага раённага Савета на разгляд дэпутатаў вынесена пытанне аб увядзенні падатку з продажу насення сланечнікаў, расады і кветак.**

Як вядома, падобным бізнесам звычайна займаюцца жанчыны-пенсіянеркі, якія такім чынам намагаюцца зарабіць нейкую капейку да сваіх мізэрных пенсій.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## З харчамі — праблема

**Па словах старшыні праўлення Мастоўскага райспажывтаварыства Мікалая Шэўчыка, мясцовы гандаль штодзённа недаатрымлівае 30-32 скрынкі малака, 380 кілаграмаў смятаны і 260 кілаграмаў тварагу.**

Гэтыя лічбы ён прывёў падчас прамой лініі, якую арганізавала раённая газета "Зара над Нёманам".

**Антон МАКЕЙ**

ДЗЯТЛАВА *шчаслівыя бацькі*



*Фота Мікалая СУПРУНА*

## Регистрация кандидатов в президенты

**31 марта 1999 года, в 14.00, в гостиничном комплексе «Октябрьский» в Минске состоится торжественная церемония регистрации кандидатов в президенты Республики Беларусь на выборах, назначенных Верховным Советом на 16 мая этого года.**

Сообщение об этом распространила 22 марта Центральная комиссия по выборам президента Республики Беларусь.

На торжественную церемонию, отмечается в сообщении, приглашены представители дипломатического корпуса, руководители миссий ООН и ОБСЕ в Беларуси, наблюдатели от правозащитных организаций, а также лично президент Александр Лукашенко.

**БелаПАН**

## Да нас едзе генерал

**На гэтым тыдні ў Слонім мяркуе прыехаць міністр унутраных спраў Юрый Сівакоў.**

Яго паездка мае азнаямляльны характар. Нагадаем, што генерал-лейтэнант Сівакоў стаў міністрам зусім нядаўна. Цяпер ён аб'язджае міліцэйскія аддзелы Брэсцкай вобласці.

**Н. Ф.**

КРЫМІНАЛ

## Застаўся без машыны і бульбы

**Мастоўская міліцыя затрымала аўтамашыну МАЗ-5355 з прычэпам, гружоную 15 тонамі бульбы на суму 385,2 млн. рублёў.**

Было ўстаноўлена, што вадзіцель грузавіка расіянін П. скупіў бульбу на тэрыторыі раёна і меў намер вывезці груз за межы Беларусі без адпаведнага дазволу.

Па рашэнню суда МАЗ і груз канфіскаваны на карысць дзяржавы.

## Злодзея шукалі ўсю ноч

**Па "гарачых слядах" міліцыянеры Мастоў раскрылі крадзёж з магазіна вёскі Парфёнавічы.**

Пошук злодзея вёўся на працягу ўсёй ночы, а раніцай злачынца, якім аказаўся раней судзімы 39-гадовы жыхар райцэнтра, быў затрыманы. Знойдзены і тавар на суму больш як 80 млн.руб.

## Хуліганы затрыманы

**Вечарам 20 сакавіка двое братоў Ш. уварваліся ў офіс прыватнай слонімскай фірмы "Крышталь", што на Чыгуначнай вуліцы, і адлупцавалі траіх супрацоўнікаў гэтай фірмы.**

Хуліганы затрыманы.

## Угналі іншамарку

**У мінулую нядзелю ў Слоніме сярод белага дня ад магазіна "1000 дробязей", што на Брэсцкай вуліцы, быў угнаны аўтамабіль "Аўдзі-100".**

Іншамарка належала слонімцу К.

## Абакралі магазін

**Днямі невядомыя залезлі ў магазін вёскі Талькаўшчына Слонімскага раёна.**

Яны ўкралі тавараў на агульную суму больш як 30 млн.руб.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі..........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 24 сакавіка 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 881
© «Газета Слонімская»
Спасылка на «ГС» абавязковая
Ⓡ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

# СЛОНІМСКАЯ ПАГОНЯ

**25 сакавіка адзначаецца дзень абвяшчэння ў 1918 годзе незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сярод дзяржаўных сімвалаў БНР былі бела-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Слонімская Пагоня знаходзіцца ў сховішчах мінскага музея. Ёй ужо больш за 60 гадоў.**



У 1930-я гады ў Слоніме на вуліцы Агароднай жыў беларускі паэт Сяргей Новік-Пяюн. А побач — на Замкавай вуліцы — быў дом яго сястры Кацярыны Новік (Пышко). Кацярына была свядомай беларускай, працавала бібліятэкарам, прыгожа вышывала. У 1937-38 гадах яна, праўдападобна, па просьбе брата, вышыла на сукне вішнёвага колеру рознакаляровымі шаўковымі ніткамі герб Пагоня. Магчыма, Новік-Пяюн рыхтаваў тайнае святкаванне 30-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР...

У 1940 г., пры "першых саветах", Сяргей Новік-Пяюн быў дырэктарам слонімскага краязнаўчага музея, дзе працаваў разам з яго заснавальнікам Язэпам Стаброўскім. Напэўна, ужо тады ў музеі перахоўвалася Пагоня. А ў экспазіцыі яна з'явілася толькі падчас нямецкай акупацыі. Часопіс "Новы шлях" у № 19 за кастрычнік 1943 года ў артыкуле "Слонімскі музей" пісаў: "Асабліва заслугоўвае на ўвагу вышыты шоўкам на чырвоным сукне герб Пагоня праз сястру дырэктара музею Кацярыну Навічанку...".

Напрыканцы 1943 года Новік-Пяюн быў арыштаваны фашыстамі. Летам 1944-га ён цудам вырваўся з Калдычэўскага канцлагера. Вярнуўся ў Слонім і зноў стаў працаваць дырэктарам музея. Прадчуваючы хуткі арышт, перадаў вышыўку Пагоня сястры Кацярыне. 14 снежня 1944 года Сяргея Новіка-Пеюна арыштавалі супрацоўнікі НКВД. Нягледзячы на тое, што ў Слоніме было сабрана шмат подпісаў у яго абарону, ваенны трыбунал НКВД Баранавіцкай вобласці асудзіў паэта на 10 гадоў канцлагераў.

Доўгія гады, чакаючы вяртання Сяргея, Пагоню пераховўвала яго сястра Кацярына. І гэта тады, калі за намаляваную на паперы Пагоню арыштоўвалі і кідалі ў канцлагеры нават падлеткаў!..

Сяргей Новік-Пяюн вярнуўся на Беларусь толькі ў 1959 годзе. Трохі пажыў у Слоніме, а пасля перабраўся ў Мінск, забраўшы з сабой і дарагую сэрцу вышыўку. Жыў ён у аднапакаёвай кватэры на вуліцы Купрыянава. Пагоня вісела над яго ложкам.

Пасля смерці паэта ў жніўні 1994 года, яго архіў разам з Пагоняй перайшоў да мінчанкі Вольгі Сувойдзь-Зубовіч, у якой вышыўку набыў Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры. Але нядоўга экспанавалася яна ў мінскім музеі. Па словах адной з яго супрацоўніц, нехта ўплывовы "настойліва папрасіў" прыбраць яе з экспазіцыі. Цяпер шматпакутная Пагоня ляжыць у запасніках музея і чакае свайго часу.

**Сяргей ЁРШ**

## ПРАШУ СЛОВА

# Чаму зневажаецца наша родная мова?

Мы, настаўнікі роднай мовы, з жалем і болем заўважаем, як сёння ганьбуецца і зневажаецца наша роднае слова. Яго зноў пачынаюць выганяць са школ, з садкоў, з культурных устаноў. Чым жа яно вінна і перад кім, што так грэбуюць у наш час беларускім словам? І тыя людзі, якія сцвярджаюць, што гэта не так, крывяць душой. Яны або абыякавыя да ўсяго нацыянальнага, або мяняюць сваё роднае і кроўнае на жыццёвыя выгады. Але не за якія грошы нельга купіць душэўны спакой, радасць і замілаванне? Душа або абыякавая да роднага, або любіць яго да самазабыцця. Абыякавасць спараджае хлусню, а любоў — надзею і паэзію жыцця, з якой жыць і радасна, і утульна. Вось чаму наша грамадства ўсё больш і больш падзяляецца на два лагеры. Але ёсць сярод нас і шмат людзей маўклівых, бязвольных, якім усё роўна, на якой мове гаварыць, з чым ісці па жыцці. Але гэта толькі на першы погляд так. Калі такому чалавеку адкрыць прыгажосць роднай мовы, ён не любіць яе ўжо не зможа. Нас могуць папракнуць. Колькі ўжо мы будзем гаварыць і пісаць пра беларускасць? Будзем. І шмат будзем! Бо настаўнікі роднай мовы кожны дзень маюць дачыненне да роднага, свайго і пратэстуюць супраць тых людзей, якія не ведаюць, што родная мова дае душы шмат асалоды, грэе сэрца незвычайнай цеплынёй. Мы, настаўнікі, пра сваю мову ведаем больш, чым хто, таму і нясем гэтае слова тым, хто далёкі ад яго. Вось і зараз хочам звярнуцца да чытачоў газеты: "Калі хочаце глыбей ведаць роднае слова, выпісвайце газету "Наша слова", якая адкрые заслону таемнасці, што навісла апошнім часам над нашай мовай". І не верце, што беларуская мова бедная, непрыгожая і непатрэбная. Яна і багатая, і цудоўная, толькі, на жаль, стала прадметам, які можна выгадна прадаць. Але мова наша блізкая і да літоўскай, і да польскай, і да нямецкай. Таму і веданне беларускай мовы дазваляе наблізіцца нам да моў Захаду. А гэта для адукаванага чалавека — гонар за сваё роднае слова, сцежка да іншых народаў, а не толькі да рускага. Ды і мне здаецца што мы, беларусы, перабольшваем ролю рускай нацыі для нас. Вакол нас ёсць шмат іншых народаў, з якімі Беларусь заўсёды была ў добрых зносінах, аб чым сведчыць наша мова. А паварот толькі да рускай нацыі — штучны, надуманы. Вось чаму нам, беларусам, трэба павярнуцца тварам да іншых суседзяў, тады і павага да самых сябе ў нас будзе большая.

**Таццяна ТРАФІМЧЫК,**
**старшыня гарадскога Таварыства беларускай мовы**

## НАВІНЫ

# Грошы далі пасля святаў

**Работнікі і непрацуючыя пенсіянеры слонімскай фабрыкі "Тэкстыльшчык" атрымалі грашовую дапамогу.**

Пенсіянерам далі па 200 тысяч рублёў, а работнікам прадпрыемства — па 500 тысяч. Па стану на 22 сакавіка з 500 пенсіянераў грашовую дапамогу атрымала ўжо 420 чалавек.

Дырэктар фабрыкі Тамара Жыткевіч, падчас размовы з карэспандэнтам "ГС", абвергла чуткі, што гэтыя грашовыя выплаты маюць нейкае дачыненне да выбараў, якія мусяць хутка адбыцца (Т.Жыткевіч балатуецца ў дэпутаты абласнога Савета). Па яе словах, дапамога прымеркавана да святаў 23 лютага і 8 сакавіка, але з яе выплатай трохі спазніліся.

— Фінансавае становішча фабрыкі палепшылася, — гаворыць Т.Жыткевіч, — і у нас з'явілася магчымасць выплаціць людзям грашовую дапамогу, чаго не маглі зрабіць у папярэднія гады.

**Сяргей ЁРШ**

# Ліквідуецца пачынанне

**Згодна рашэнню Мастоўскага райвыканкама ў горадзе ліквідуецца швейная фабрыка "Мастаўчанка".**

Гэта прадпрыемства спецыяльна будавалася для працаўладкавання перасяленцаў з чарнобыльскай зоны. Аднак, так і не наладзіўшы вытворчасці мануфактуры, фабрыку вырашылі ліквідаваць. Тым часам у Мастах афіцыйна зарэгістравана 400 беспрацоўных.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

# Пераможцы вызначаны

**Падведзены вынікі спаборніцтва ў эканамічным і сацыяльна-культурным развіцці сярод прамысловых і сельскагаспадарчых калектываў Слонімшчыны за 1998 год.**

Першае месца сярод прамысловых прадпрыемстваў прысуджана фабрыцы пер'е-пухавых вырабаў. Сярод сельскагаспадарчых прадпрыемстваў пераможцам стаў саўгас "Пераможац".

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## СПОРТ

# Маладзечанскі турнір

**У Маладзечне прайшоў футбольны турнір каманд вышэйшай і першай лігаў.**

Слонімскі "Камунальнік" выйграў у "Маладзечна" — 4:0, "Забудовы" (Маладзечанскі раён) — 1:0 і прайграў мінскаму "Дынама-Юні" — 2:3, а таксама "Лідзе" — 1:2. Лепшым бамбардзірам турніра стаў Георгій Татарашвілі, на рахунку якога 5 галоў.

У Маладзечне за "Камунальнік" гралі некалькі навічкоў, якія цяпер знаходзяцца на праглядзе: Сяргей Бекеш, Томаш Гумераў, Пётр Уладзіміраў. З 27 сакавіка ў Гродне "Камунальнік" будзе ўдзельнічаць у гульнях на "Кубак губернатара вобласці".

# Цікавы фінал

**У панядзелак, 22 сакавіка, у спарткомплексе завяршыўся чэмпіянат Слоніма па міні-футболу, які праводзіўся ў рамках рабочай спартакіяды.**

У фінальнай гульні сустракаліся каманды фірмы "Тэлкон" і Кардонна-папяровага завода (КПЗ). У паўфінале "Тэлкон" упэўнена перамог "Дынама" — 8:3, а КПЗ выйграў у ДЮСШ-Альбярцін — 5:4.

Гульня атрымалася даволі цікавай. Калі спачатку "Тэлкон" меў поўную перавагу і здолеў забіць два галы, дык у канцы першага тайма футбалісты КПЗ зраўнялі лік. Больш таго, у другім тайме яны выйшлі наперад, рэалізаваўшы пенальці. Аднак "тэлконаўцы" пераламалі ход гульні на сваю карысць. А калі Раман Мамедаў дакладным ударам у вугал варот зрабіў лік 5:3, "Тэлкон" святкаваў перамогу. Усё, што паспелі зрабіць да канца матча футбалісты каманды КПЗ, гэта забіць яшчэ адзін гол...

У матчы за трэцяе месца сустракаліся "Дынама" і ДЮСШ-Альбярцін. Юнакі са спартыўнай школы паспяхова супрацьстаялі дынамаўцам толькі ў першай палове гульні, якая завяршылася ўнічыю — 3:3. А ў другім тайме "Дынама" забіла шэсць пераможных галоў.

**Сяргей ЁРШ**

# Памяці земляка

**У Слоніме завяршыўся абласны турнір памяці вядомага мясцовага шашыста Мікалая Мялешкі.**

За перамогу змагаліся 15 шашыстаў. У выніку, першае месца заняў Сяргей Масюкоў (Гродна), другое — Васіль Навумік (Ваўкавыск), трэцяе падзялілі слонімцы Канстанцін Белуш (мясакамбінат) і Іван Мялешка (раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі). Пераможцам бліц-турніру стаў гродзенскі майстар Аляксандр Маркін.

**Аляксандр АНІСЬКА**

## ЗАМАЛЁЎКА З НАТУРЫ

***— Як жыццё?***
***— Як у аўтобусе. Калі не затопчуць, дык душу вымуць.***
***(Показка)***

# ЖЫЦЦЁ — АЎТОБУС

— Ой, людцы, жыццё і так кароткае, што ж вы яго яшчэ і так скарачаеце!.. Ах, божачкі мае, божачкі...

Бабулька ўладкавалася зручней і сціснулася. А салон аўтобуса яшчэ колькі хвілін напаўняўся лямантам і мацюкамі трох жанчын: кандуктаркі, кантралёркі і безбілетніцы, якую не выпусцілі-такі на канечным прыпынку ля бальніцы... Нарэшце дзверы зачыніліся, пасажыры размясціліся, хто як паспеў, і маршрутная "дванаццатка" рушыла з месца.

— Во глядзі, і гэтыя рвануллі, — праз смех выціснула з сябе маладая дзяўчына, паказваючы праз акно сяброўцы на людзей, што замітусіліся былі на чарговым прыпынку. Аўтобус ішоў экспрэсам, пакідаючы за сабай недаўменныя твары патэнцыяльных пасажыраў, якія ўжо даўно чакалі яго, каб дабрацца з Альбярціна ў горад ці на "Энку".

— Ага, — смяяліся маладыя зласлівіцы, — зноў аблом. .. А тым часам строгая кантралёрка круком навісла над "зайчыхай", якая мала таго, што не заплаціла за праезд, але яшчэ зняважыла яе асобу пры выкананні службовых абавязкаў.

Аднак хуткая язда без прыпынкаў не ўваходзіла ў планы многіх пасажыраў, і тыя спынілі ўсё ж аўтобус ля вакзала. Праўда, вадзіцель прытармазіў машыну, не даязджаючы да прыпынка, і выпускаў пасажыраў толькі праз пярэднія дзверы. Але такая перасцярога была лішняй. Вінаватая ў хуткай яздзе, жанчына сярэдніх гадоў, і не думала ўцякаць. Яна спакойна сядзела на сваім месцы і, безуважная да ўсіх і ўсяго, глядзела ў акно. Мабыць улічваючы яе бездакорныя паводзіны, вадзіцель зрабіў другі прыпынак на плошчы Л. Сапегі, дзе ўжо не толькі выпусціў пасажыраў, але і ўпусціў новых — праз пярэднія дзверы.

Сапраўдным рогатам выбухнулі пасажыры, калі аўтобус мінуў магазін "Спадарожнік". Ад людзей на прыпынку аддзялілася чацвёра хлопцаў - падлеткаў, якія кінуліся наўздагон за аўтобусам, нагадваючы пры гэтым зграю паляўнічых сабак, што "травяць" звера. Але кемлівыя хлопцы, відаць, здагадаліся, што бегчы ім нядоўга, куды даўжэй — чакаць наступны рэйс.




Ля будынка міліцыі, проста на скрыжаванні, "дванаццатка" спынілася. Свабодная ад "варты" кантралёрка пабегла ў міліцыю і праз некалькі мінут вярнулася з міліцыянерам. Абражаная працаўніца грамадскага транспарту паказала старшыне міліцыі на сваю крыўдзіцельку.

— Што чакае парушальніцу? — спытаў нехта з пасажыраў.

— Штраф і суд. Толькі суд. Я не дарую ёй абразы, — адказала кантралёрка...

Адны пасажыры пакідалі аўтобус тут жа на скрыжаванні, другія ўваходзілі ва ўсе ўжо расчыненыя дзверы. Моладзь весела абмяркоўвала ўбачанае і пачутае, смяялася. І толькі дзве бабулькі, вышаўшы на вуліцу, скардзіліся адна адной:

— Гэта ж з-за гэтай лярвы два лішнія прыпынкі праехалі... Дайдзі цяпер паспрабуй, — абуралася адна.

— А што ім людзі, ім абы грошы з людзей драць, — дадала, відаць, не дачуўшы, другая...

**Мікола КАНАНОВІЧ**

Газета Слонімская
25 — 31 сакавіка 1999г., № 13 (94)

НАШ КОНКУРС

# "ШТО Б ГЭТА ЗНАЧЫЛА?"

ад "Kodak-ЛЮКС"

**Шаноўныя сябры!**

Сёння мы публікуем вашы подпісы да здымка, які быў надрукаваны ў адзінаццатым нумары "ГС". Подпісы да здымка, якія былі змешчаны ў № 12 "ГС" мы апублікуем у наступны раз.

На гэтым наш конкурс "Што б гэта значыла?" завяршаецца. Праз нумар журы назаве пераможцаў.



***
Чтоб согреть
душу и тело,
Самогонку
пьем мы смело.
Подопрем
вождя плечом
И никто нам нипочем.
**Наталья Эгерд**

***
Трое в парке:
Мы и Ленин...
На троих вино разделим.
**Анна Глечикова**

***
— Что вы пришли,
мужики?
Опять, что ли с горя
напиться?
— Да что ты, Ильич,
дорогой,
Учиться, учиться,
учиться...
**Татьяна Лысуха**

***
С дедушкой Вовой
Скинулись внуки,
Чтобы на праздник
Не заснул он от скуки.

***
Ты вино дели по чести —
Контролёр сидит
на месте.
**Николай Заложук**

***
Работы много у меня
После застолья,
Но знайте — чистота —
Залог здоровья!
**Никифор Трубецкой**

***
Хоть время потеряем,
Посторожим
здесь, Ваня,
Чтоб опять из "Искры"
Не разгорелось пламя.

***
Посмотрите!
Этот франт —
Революции гигант.
Ведь кому ж еще
под силу
За ночь развалить
Россию?..

***
Нет лучшей красоты,
Чем посмотреть
с высоты
На развалины эпохи,
На несбыточность
мечты...
**Светлана Болтик**

***
Много лет я здесь сижу
И в жару, и в непогоду.
Как бухгалтер, счет веду,
Сколько выпито
народом.

***
Кто цветы мне принесет,
Кто вина стакан нальет.
Так и эдак хорошо,
Лишь бы кто-нибудь
пришел.

***
Мы заветные сто грамм
С ним разделим
пополам.
**Татьяна Тарасик**

***
— Трэцім будзеш?
— Пачакайце, толькі дапішу "Апрэльскія тэзісы".
**Таццяна Гарадка**

***
Налівай, то ж не вада,
Не глядзі яму у вочы.
Што ён піша — не бяда,
Ён таксама выпіць хоча.
**Сяргей Якімчык**

***
Здесь много лет
храню заначки —
Ильич их стойко
охраняет.
Надеюсь, что моя жена
Об этом так и не узнает.
**Лилия Прудникова**

***
Один сидишь
на пьедестале,
А мы стоять уже устали.
Ильич, подвинься,
дорогой,
И вместе выпьем
мы с тобой.
**Ольга Пейдик**

***
Ребята, ведь придет она,
На пиво старая цена!

***
Мороз и солнце —
день чудесный,
А ты все пишешь,
друг прелестный.
А мы уж слишком
много лет
На ребус твой ищем ответ.
**Виктор Новоселов**

***
Выпил сотку наш дружок
И присел писать стишок.
**Юрий Яговдик**

***
Мы все привыкли стоя
С вождями говорить,
Но ни один не сможет
Нам выпить запретить.
**Дмитрий Миронов**

***
К нему не зарастет
Народная тропа...
**Елена Солдаткина**

***
Они тоже хотят в депутаты.

***
Официант, счет,
пожалуйста.
**Никита Барановский**



# ГОРОСКОП

## С 25 ПО 31 МАРТА



**ОВЕН**

Несмотря на то, что предстоящий период чрезвычайно благоприятен для продвижения в карьере, вам предстоит позаботиться о своем здоровье и здоровье своих близких – дома возможен "лазарет".



**ТЕЛЕЦ**

Вам лучше отложить все дела и заняться любовью. Повышенная сексуальность, желание развлечений, в выходные – симпатичная компания, в которой вам будут рады. Некое известие на работе принесет хлопоты, но можно неплохо заработать.



**БЛИЗНЕЦЫ**

Пустая неделя. Если вы затеяли небольшой ремонт, то лучше всего предстоящий период посвятить ему. А также неплохо было бы завершить все те мелкие дела, которые тянутся с нового года.



**РАК**

26-е марта не будет соответствовать вашим планам, но не всегда планируемое – лучше, чем неожиданное. На работе возможны кадровые перемещения. Поступление денег из нового источника. Продолжение экстравагантного романа, возникшего в начале марта.



**ЛЕВ**

Получите письмо или сообщение издалека. Возможен приезд друзей или родственников. Короткая непредвиденная командировка. В сердечной области – хороший, спокойный период. Партнер будет к вам внимателен.



**ДЕВА**

Самый удачный день – 29 марта: вы сможете разрешить не только парочку проблем, но и узнать массу новой информации. Мужчины-Девы будут весьма неблагоразумны – успех у противоположного пола вскружит голову.



**ВЕСЫ**

Деньги, которые попадут к вам в руки на этой неделе, будут немедленно потрачены. Неприятности могут исходить от супруга или родителей. Некоторое непонимание и разлад в семье.



**СКОРПИОН**

Многие из Скорпионов проявят поразительное упрямство во всех вопросах, которые касаются быта. Так что окружающим лучше не реагировать серьезно на все "скорпионские" нововведения. Возможно возвращение старого чувства.



**СТРЕЛЕЦ**

Хотя вы мало верите в приметы, обратите внимание на свои сны или какие-нибудь мелкие, но весьма нестандартные события – можете узнать кое-что о будущем. Возможны спорные или даже судебные дела.



**КОЗЕРОГ**

Не обращайте внимания на недовольство партнера, оно быстро пройдет, когда обнаружится, что ваши усилия на работе "угрожают" великолепным результатом. Возможна просто отменная сделка!



**ВОДОЛЕЙ**

Повысится "везучесть" в творчестве и работе. Многие получат признание, вплоть до незаслуженного. А вот на дорогах возможен травматизм, осторожнее за рулем. Не следует принимать всерьез и чейто флирт.



**РЫБЫ**

Вас просто лихорадит от желания перемен. Некоторые смогут позволить себе отпуск, не дожидаясь лета, а некоторые напросятся на командировку – лишь бы прочь из дому. Возможно получение денег в долг.

## АНЕКДОТЫ

☺— От любви с первого взгляда есть прекрасное лекарство.
— Какое?- Взглянуть во второй раз.

☺ Приехали иностранцы в колхоз, знакомятся с жизнью селян. Замечают, что в хатах нет ванн. Спрашивают:
— А где вы моетесь?
— Так ось в озере.
— А зимой?
— Так скильки той зимы?!

☺— Что с вами, коллега? Вы так озабочены.
— Ничего удивительного. У меня пять дочерей и ни одного зятя...
— Ха! Что бы вы сказали на моем месте! У меня только одна дочь, зато уже пятый зять!

☺ Человек (заинтересованно, заигрывая):
— Девушка, а вы замужем?
Она, слегка смутившись:
— Нет, я просто не накрашена...

☺— Папа, почему мы так поздно пришли в магазин за покупками?
— Не болтай много! Пили решетку...

☺ Директор фабрики, проверяя напечатанный отчет, спрашивает секретаршу, со сколькими нулями пишется миллион.
— С шестью нулями.
— А полмиллиона?
— С тремя.

☺ Интересно получается: я тебя пригласила, чтобы ты выпил за мое здоровье, а ты хлещешь уже пятый стакан!
— Извини, но ты так плохо выглядишь.

☺ — С каких пор у Вас возникло чувство, что Вы пес?
— Еще с тех пор, когда я был щенком.

## ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

**ВОПРОС:** ***Подскажите, пожалуйста, как правильно надо хранить меховые шапки?***

**ОТВЕТ:** Хранить меховые изделия лучше при низких температурах. При очень высокой температуре мех пересыхает, кожевая ткань делается жесткой, теряет пластичность. Влажность помещения, в котором хранятся меховые изделия, должна быть нормальная, примерно около 50-60% относительной влажности. При очень низкой влажности кожевая ткань сильно высыхает и делается жесткой. Под действием света и особенно солнца мех выцветает; шкурки с белым волосяным покровом (горностай, песец, заяц-беляк) или с белым кольцом (серебристо-черная лисица, платиновая лисица и др.) от действия света желтеют. Особенно надо предохранять меховые изделия от повреждения молью. Такие пахучие вещества, как нафталин, керосин и другие, малоэффективны, так как они не уничтожают моли (особенно ее личинок и куколок), а только отпугивают ее. Если в мехе уже завелись личинки, то нафталин, керосин совершенно не помогают. Хорошо уничтожает моль и ее личинки дуст ДДТ. Перед укладкой на хранение изделия необходимо тщательно выколотить и вычистить. Шкаф внутри весь опылить ДДТ или лучше опрыснуть раствором ДДТ в бензине (можно применить детойль). Затем изделия пересыпать дустом ДДТ и положить в шкаф мешочки с нафталином. Каждое изделие рекомендуется держать в специальном мешке, на дно которого насыпать нафталин, а самое изделие посыпать ДДТ.

**За мінулы тыдзень у Слонімскім аддзеле ЗАГСа зарэгістраваны дзеткі, якія нядаўна нарадзіліся:**

Максім Гула
Сяргей Пятрашка
Павел Герасімчык
Дзмітрый Сяхно
Аліна Пархоменка



## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

| | |
|---|---|
| **Малец** Адам Канстанцінавіч | 1944 г.н. |
| **Сядляр** Мікалай Уладзіміравіч | 1933 г.н. |
| **Гарун** Іван Максімавіч | 1950 г.н. |
| **Хамінец** Вольга Іосіфаўна | 1928 г.н. |
| **Вераскіна** Кацярына Васільеўна | 1913 г.н. |
| **Смірнова** Лідзія Мікалаеўна | 1928 г.н. |
| **Каспяровіч** Марыя Нікіфараўна | 1925 г.н. |
| **Кандрацюк** Валянцін Уладзіміравіч | 1954 г.н. |
| **Жук** Міхаіл Антонавіч | 1923 г.н. |
| **Чырко** Іван Ігнатавіч | 1920 г.н. |
| **Турцэвіч** Іван Емельянавіч | 1934 г.н. |

